Год V. Травень № 5 (52).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."
ЯНКА КУПАЛА.





ВІЛЬНЯ, 1933 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. №6

За апошнія два месяцы ўстрымана высылка часопісі „Шлях Моладзі“ для 120 асоб. Прыпамінаем, што і далей паступова будзем устрымліваць высылку „Ш. М.“ усім тым, хто не аплаціў за яе падпіску. Дык усіх нашых, даўжнікоў, якія хочуць атрымліваць часопісь, просім хоць часткамі аплачваць яе.

АДМІНІСТРАЦЫЯ „ШЛЯХУ МОЛАДЗІ“.

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі“
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.
Цана асобнага нумару 30 гр.
Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . 2 зл.
Заграніцу — ўдвая даражэй.
Цана абвестак паводле ўмовы.
Адрэс Рэдакцыі: Вільня (Wilno), Завальная № 6 — 10
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год V. | Вільня, Травень 1933 г. | № 5 (52). |
| --- | --- | --- |

## Больш увагі для спраў агульна-народных.

Усім надаела халодная, марозьлівая зіма, кожны чакаў вясны. Надышла яна прыгожая і прыбрала нашую беларускую сялянскую краіну. Нівы, лясы і лугі зелянеюць, птушкі шчабечуць, набытак выгнаны ў поле скубе траўку, артаі гаруць ніўку, а сонца што-раз мацней прыгравае.

Гледзячы на ўсё гэта сэрца пачынае неяк хутчэй біцца, радавацца і здаецца, вось людзі ад'жылі, вось разжывуцца, ні пачом ім цяпер бяда. А аднак далёка яно ня так: — і вясна таксама прыносе беды. Калі канчаюцца запасы і пачынаюцца палевыя работы ў полі, хочаш-ня-хочаш—мусіш думаць аб будучыні. Трэба сеяць і садзіць. — Але што, дзе, чым і як — вось самая галоўная рэч. Загоны вузкія, насеньня таксама ня надта ёсьць ды і заработкаў нідзе няма, — а есьці і апранацца трэба. Паўстае рух, беганіна, сваркі, споркі, а нават і сьмяротныя бойкі. Адзін шукае поля ў арэнду, другі насеньня, трэці ўзноў шукае каня, плуга і г. д. У адным мейсцы брат з братам ня могуць падзяліць вузкага загону, у другім зноў бацька з сынам ці з дачкой калоцяцца за ўборы, там зноў вёска з вёскай сварацца за выган ці сенакос — і так без канца. Кожны глядзіць толькі сябе, а на справы паза сабой, якіх ня здольны так проста бачыць, зусім не зварочвае ўвагі, хоць гэта справы большыя, агульна-народныя, з якіх іменна ўсе гэтыя беды выплываюць.

Найвялікшай балячкай сяньня ў нас зьяўляецца несправядлівасьць: адны маюць вялікія багацтвы, вялізарныя абшары і прывілеі, а другія ня маюць ні кала ні двара. Сяляне і работнікі, хоць і бедныя, мусяць за навуку дзяцей сваіх у школе плаціць, а ўрадаўцы, хоць добрую пэнсію атрымоўваюць, аднак за яе ня плацяць. А закон выразна кажа, што „навука бясплатная". І так народ наш сялянскі ня мае ані зямлі, ані магчымасьці здабыцьця навукі. — І жыві тут як хочаш.

Вось-жа, каб перамагчы зло і паправіць сваё жыцьцё, мы павінны менш турбаваца аб рэчах малаважных, пераход-

ных — трэба іх хутка і далікатна лагодзіць і ліквідаваць (касаваць), ды ўсю сваю ўвагу і сілу зьвярнуць на затамаваньне тых жаролаў з якіх уся бяда выплывае.

Шлях да затамаваньня зла ў нашым краю, гэта шлях усьведамленьня нашага беларускага народу, адраджэньне яго і арганізацыя на грунце беларускасьці дзеля таго, каб наш голас быў браны пад ўвагу, каб маглі мы ў сваім краю быць гаспадарамі і каб у нашым краю запанавала **справядлівасьць.** Праўда, ня лёгкая рэч дабівацца справядлівасьці і дабра, але праўда перамагае заўсёды, пераможа і ў нас.

На ўсё гэта асаблівую ўвагу павінна зьвярнуць наша беларуская сялянская моладзь, якая так часта свабодны час дарма марнуе і сілу сваю вылівае на лабы адзін другому. Гэтыя кепскія звычаі (бойкі) трэба як найхутчэй вывесьці з нашага жыцьця, а іх мейсца хай займуць праца і імпрэзы (разрыўкі) культурныя, з якіх не малую карысьць будзе мець кожны з нас і народ беларускі наагул. Арганізавацьжа іх зможам вядучы іменна ўсьведамляючую і адраджэнскую работу пры помачы беларускіх культурных арганізацыяў.

Я. Н.

## Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

*(З прычыны сходу Рады БІГіК).*

У сучасны мамэнт у Заходняй Беларусі, дзе ня кінеш вокам, усюды бадай наткнешся на нейкую польскую арганізацыю. Усе яны імкнуцца да таго, каб наш край якнебудзь споленізаваць і каб сучасную лучнасьць яго з Польшчай як наймацней зацясьніць. Усе яны работу сваю вядуць пад назовам „культурнае працы“, а дзеля гэтага, як і дзеля свае польскасьці, карыстаюцца грашовымі дапамогамі са стараны ўрадавых кругоў, або самаўраду, ці ўзноў са стараны польскага духавенства.

З усім гэтым край наш выглядае, як ніва залітая вясьнянай паводкай. Але на нівах нашых ёсьць вельмі часта вялікія і высокія каменьні, якія паміма ўсяго, ляжаць спакойна, а нават аб іх разьбіваюцца хвалі вады і ледзяныя крыгі. Падобным каменным слупом, сярод паводкі польскіх арганізацыяў на Беларусі, ёсьць Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (ў скарочаньні — БІГіК). Гэта ёсьць арганізацыя беларуская, чыста культурная і імкнецца да таго, каб у нашым краю пашыраць і падтрымліваць культуру, навуку і прасьвету. Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры не атрымлівае ні ад каго дапамогаў. Фінансы яго складаюцца з сяброўскіх складак і ахвяр (адзін напр. сябра Станіслаў

Свінабурка з Мядзьведзіч ахвяраваў на Інстытут100 даляраў), усе яго працаўнікі—гэта людзі ідэі, якія за сваю працу ніякай заплаты не атрымліваюць. БІГіК не арыентуецца ні на Маскву ні на Варшаву, а на свой беларускі народ, для дабра якога і працуе. У дзейнасьці сваей дужа часта напатыкае ён на розныя перашкоды з боку адміністрацыйных уладаў. Да гэтай пары ўсёж-такі неяк іх перамагаў і працу сваю вёў па тольki, колькі хапала сілы.

БІГіК за апошні 1932 год сваей дзейнасьці, як відаць з справаздачы старшыні Цэнтральнага Ўраду Кс. В. Гадлеўскага на сходзе Рады Інстытуту дн. 7.V. с. г., зладзіў каля 60 лекцыяў, на якіх было прысутных прыблізна каля 10.000 асоб (лічачы каля 200 асоб на кожную лекцыю. У Ляхавічах на лекцыях Кс. В. Гадлеўскага было болей як па 600 чалавек.). Тэатральных прадстаўленьняў было пастаўлена каля 100. Апроч таго Інстытут выдаў дзьве кніжыцы: „Leki pa ździeki“ (аб коопэрацыі) інж. А. Клімовіча і „Zorka-Ideja“ — сцэнічны твор Рушчанца, а так-жа дадатак да Інструкцыі Інстытуту, на аснове новых дэкрэтаў Прэзыдэнта аб сабраньнях.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры дзейнасьць сваю вядзе пераважна на правінцыі, дзе мае свае гурткі. Лік іх сягае 53, маюць яны болей як 1000 сяброў. Усе бадай гурткі Інстытуту маюць беларускія бібліятэкі, якія цэлы час у руху.

У пляне сваей дзейнасьці на 1933 год БІГіК мае перадусім закладаць новыя гурткі, дзе маглі-б гуртавацца і арганізавацца ўсе тыя адзінкі, якія хацелі-б працаваць на ніве культурнага і гаспадарчага адраджэньня Беларусі, разьвіваць у сяброў Інстытуту ідэолёгію гэтага адраджэньня, ладзіць лекцыі на тэмы гаспадарчыя і культурныя, а так-жа і прадстаўленьні.

У цяпершні Цэнтральны Ўрад Інстытуту ўваходзяць: Кс. В. Гадлеўскі — як старшыня, інж. А. Клімовіч і пасол Ф. Ярэміч — віцэ-старшыні, свяшч. А. Коўш — скарбнік, М. Пецюкевіч — сэкрэтар і др. Б. Туронак і рэд. Я. Пазьняк— сябры ўраду. Галоўны Ўрад месьціцца ў Вільні, пры Людвісарскай вул. 1—19.

---

Беларуская моладзь, ня маючы сваей арганізацыі моладзі, павінна ўсе свае сілы скіраваць у Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры і там супольна працаваць для палепшаньня свае і агульна народнае долі. Пры тым павінна так-жа моладзь пасьпяшыць і з помаччу матэрыяльнай,—якой Інстытут вельмі патрабуе,—чымся марнаваць грошы часта на рэчы зусім беспатрэбныя, а нават шкодныя.

—к —п

# Uzdoŭž — popierak Biełarusi. (4)

(*Krajaznaŭčyja zaciemki*).

**Brasłaŭščyna.**

*Minułaje Brasłaŭščyny.*

Brasłaŭščyna ad XI da XIV stahodździa ŭvachodziła ŭ skład Połaččyny i z joju pieražyvała bahatuju historyju. Hetaje kniastva ad'značałasia svajej ruchlivaściu i vajaŭničaściu. Na hetaj terytoryi, jak kaža Kołas: „schadziliś ŭsie plamiony sporku siłaju kančać". Ale treba dadać, što schadziliś tut nia tolki plamiony słavianskija, ale i dla słavianaŭ čužyja, jak fina-manholskija z paŭnočnaha ŭschodu, paźniej Kryžanoscy, Tatary, a jašče paźniej—Maskali i Palaki. A chto viedaje, jakija narody ci plamiony jašče raniej nasielali terytoryju Brasłaŭščyny? Na hetaje pytańnie ničoha kankretnaha nielha adkazać tamu, što Brasłaŭščyna archeolohična mała daśledavana. Tyja archeolohičnyja zabytki, jakija znachodzim u Brasłaŭščynie, śviedčać, što na hetych abšarach byli ludzi ŭ dahistaryčnyja časy, u eposie neolitu, ab čym śviedčać znachodki kamiennaha vieku (hładžanyja pryłady: siakierki, bułavy, dałoty, kliny i t. p.).

Adnak usio heta jšče pakryta pyłam šeraj prošłaści; minuŭščynu Brasłaŭščyny z časam navuka vyjaśnić i skaža ab joj słova praŭdy. Siańniašnija histaryčnyja dadzienyja, na jakich my apirajemsia, vyrazna nam kažuć, što Biełarusy byli ŭ Brasłaŭščynie ŭžo pad kaniec XI stahodździa. Woś my i zatrymajemsia na tych pamiatkach, jakija jašče siańnia sustrakajem na abšarach Brasłaŭščyny.

Brasłaŭščyna nia tolki vielmi cikavaja svaim naturalnym bahaćciem pieknaty, ale nia mienš cikavaja jana dla kožnaha čałavieka, a asabliva dla historyka, krajaznaŭca, turysta svaimi pamiatkami minuŭščyny, śvietłaj ci ciomnaj. Znachodzim tut ceły čarod zamkaŭ, haradziščaŭ, abo roznych vałaŭ (krepaściaŭ), vałatoŭkaŭ (mahiłaŭ) i t. p. pamiatak. Najvažniejšym z ich jość Brasłaŭ.

Brasłaŭ — heta vielmi staroje miesta, založanaje na 300 hadoŭ pierš čym Vilnia; a dziela taho, što Brasłaŭščyna ŭžo ŭ XI st. uvachodziła ŭ skład Połackaha kniastva, možna dadumyvacca, što załažyŭ jaho Połacki kniaź Bračysłaŭ — unuk Uładzimiera śviatoha i Rahniedy. Bračysłaŭ pamior u 1044 h.. Značycca, Brasłaŭ musiŭ być založany raniej, mahčyma ŭ X stahodździ. Spačatku Brasłaŭ byŭ haradziščam-krepaściaj, jakuju z vialikim trudom musiŭ uziać adzin z litoŭskich kniazioŭ u 1065 h. I ad XIV st. Brasłaŭ zastaŭsia ŭ vaładańni Vialikich Kniazioŭ Litoŭskich. U XVI st., paśla pryłučeńnia Biełarusi i Litvy da Polščy, Brasłaŭ stajecca pavietavym miestam vilenskaj hubernii.

Pieršy vilenski vajavoda Monivid, jaki žyŭ u kancy XIV i ŭ pačatku XV st., załažyŭ u Brasłaŭi kaścioł pad pryzvańniem Maci Božaj, a taksama toj-ža vajavoda, pa zahadu V. Kn. Vitaŭta, pabudavaŭ carkvu i pravasłaŭny manastyr. U 1434 h. Švidryhajła, imknučysia na vialikakniažy pasad, złučyŭsia ŭ Brasłaŭi z biełaruskimi kniaziami, bajarami i načalnikam kryžackich vojskaŭ, a hod paźniej—z tatarami.

Žonka karala Aleksandry Jahajłaviča, Alena — rasiejka, vielmi lubiła m. Brasłaŭ; tut jana pražyvała i pašyrała ŭ našym kraju pravasłaŭje; załažyła dziela hetaha žanocki manastyr i carkvu na zamkavaj hary ŭ Brasłaŭi i subsydyjavała (uspamahała) manastyr na vostravie Niaśpiš. Pa śmierci muža karaleva na zaŭsiody asieła ŭ Brasłaŭi i Brasłaŭščynu mocna ufortyfikavała.

Dziakujučy častym vojnam, zamki i haradziščy, a taksama miastečki i pasiołki, niekalki razoŭ byli źniščany pažarami. U 1515 h., padčas maskoŭskaj navały, usia Brasłaŭščyna była strašenna zrujnavana. Miž inšym najvialikšy horad u toj čas, Druja, byŭ zusim razburany. Chutka paśla hetaha adbudavanyja zamčyščy i harady (Brasłaŭ, Druja) Brasłaŭščyny, pry kancy XVII st., z pryčyny vajennych zaviaruchaŭ, uznoŭ byli zrujnavany i ekanamična nie mahli paŭstać až da našych časoŭ.

Nasielnictva Brasłaŭščyny ŭ daŭniejšyja časy ŭspomnienych haradoŭ było chryścijanskaje —h. zn. biełaruskaje. Da XVII st. u Brasłaŭščynie byli vieravyznańni: katalickaje i pravasłaŭnaje, a ŭ 1667 znachodzim dakument, dzie skazana i ab unijatach.

Jak najvialikšuju pamiatku minuŭščyny možam bačyć jašče siańnia ŭ Brasłaŭi, siarod miesta, Zamkavaju haru, a na hary — fundamanty byłaha haradzišča. Z paŭdzionnaha boku ablivaje Brasłaŭ vialikaje voziera Dryviaty, a z paŭnočnaha — Navita. Abodva hetyja vaziory pałučany praz vulicu miesta raŭčučkom daŭžynijo 10—15 metraŭ.

Na paŭnočny ŭschod, para kilom. ad miesta, na voziery Niaśpiš, jość vastravok, jaki nazyvajscca „manastyr“, dzie ŭ XV st. byŭ sapraŭdy manastyr Bazyljanaŭ. A za hetym vozieram jość vioska (ciapier chutary), jakaja taksama nazyvajecca „Manastyr“; nazoŭ hety pachodzić ad taho-ž histaryčnaha manastyra. Hety Niaśpiški manastyr byŭ vielmi bahaty, bo praz całaje žyćcio specyjalna im apiekavałasia karaleva Alena, žonka Aleksandry Jahajłaviča, a paśla apiekavalisia i inšyja karali, nadajučy manastyru roznaha rodu pryvilei, jak ustanovie relihijnaj i kulturna-praśvietnaj. Manastyr hety da XVII st. byŭ pravasłaŭny, a paśla pryniaŭ uniju. Praz uvieś čas svajho isnavańnia mieŭ jon nazoŭ „Monastyr Błahovieščenija Preśviatoj Bohorodzicy“. Manastyr hety na całuju vakolicu ad'značaŭsia cudoŭnym abrazom Maci Božaj, jaki

zvablivaŭ siudy cełyja pilihrymki viernych. U časy Napaleonskaj vajny, sałdaty francuskija zusim abrabavali manastyr, a ŭ 1832 h. ad piaruna zhareła carkva, manastyr, biblijateka i ŭsia manastyrskaja majemaść. Manastyr u tyja časy mieŭ 52 vałoki ziamli,123 paddanych (pryhońnikaŭ) i 3997 rub. sierabrom.

Paśla hetaha niaščaścia, bolš užo manastyr nia byŭ adbudavany, bo akurat prypali časy vaładańnia cara rasiejskaha Mikoły I, jaki biaźlitasna dušyŭ uniju na našych ziemlach, a asabliva praśledavaŭ manachaŭ Bazyljanaŭ.

(d. b.) *Jakub Brasłaŭski.*

# Biełaruskija paety Zach. Biełarusi.

*(Z pryčyny „Viečaru paetaŭ Zachod. Biełarusi" i literaturnaha kutka ŭ „Роднымъ Краю").*

Apošnimi hadami biełaruskaja literatura chutkim krokam idzie ŭpierad. Ab hetym śviedčyć jak kolkaść vydanych literaturnych tvoraŭ, tak ich jakaść, a tak-ža i kolkaść paetaŭ, kadry jakich što raz bolš pavialičvajucca. Najbolšaja zasłuha ŭ hetym, biazumoŭna, Biełarusi centralnaj i ŭschodniaj (B.S.S.R.), dzie, jak u centry i najbolšaj častcy našaj Baćkaŭščyny, hurtujucca najmacniejšyja i najzdalniejšyja siły, na čale z Jankam Kupałaj i Jakubam Kołasam, dy dzie aproč taho ŭsiož-taki biełaruskaść, kali nia duchovaja, dyk vonkavaja, karystajecca svabodaj.

Biełaruskaje hramadzianstva Zachodniaj Biełarusi znachodzicca ŭ takim pałažeńni, što tvorčaści sučasnaj svaich paetaŭ, asabliva maładych, badaj-što i nia znaje, bo da tvorčaści biełaruskich paetaŭ B.S.S.R. nia maje dostupu, a tvorčaść sučasnych maładych, a tak-ža i starejšych biełaruskich paetaŭ Zach. Biełarusi, z pryčyny hality biełaruskich vydaviectvaŭ, badaj-što ŭsia lažyć u rukapisach nia vydanaj. Praŭda, drukujecca heta tvorčaść uva ŭsich badaj biełaruskich časopisiach, a čas ad času navat vyjdzie ŭ śviet jakiś maleńki zborničak, ale ahulna biaručy, heta — kapla ŭ mory, abo moža lepš — kapla z mora.

Žyviom my takim čynam i ab svaim dabry, ab literaturnych talentach i skarbach nia viedajem. Sami našy paety vydać drukam svaich tvoraŭ, abo jnakš niejak imi padzialicca, nia mohuć; biełaruskija-ž kulturnyja arhanizacyi, zavalenyja inšaj pracaj, za redka taksama źviartajuć uvahu na našych maładych pradusim paetaŭ i ichnuju tvorčaść. Tak napr.: za apošnija 10 hod uva ŭsiej Zachodniaj Biełarusi było zładžana tolki try viečary paśviačanyja novym biełaruskim paetam i novaj biełaruskaj literatury, choć zacikaŭleńniem zaŭsiody karystalisia duža vialikim.

Apošni taki „viečar" ładziła studenskaja arhanizacyja — Tavarystva Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pry Vilenskim Univer-

sytecie 7 traŭnia s. h. Viečar pačaŭ uvodnym słovam staršynia hetaha tavarystva hram. St. Stankievič. Paśla byli pradeklamavany vybranyja tvory Natalli Arsieńnievaj, Janki Byliny, Chviedara Illaševiča, Michasia Mašary, Michasia Vasilka i Jazepa Vilkoŭščyka. Deklamavali vieršy stud. stud.: H. Šutavičanka, E. Załkindzianka, J. Malecki i J. Chvorast. Najbolšuju ŭdaču mieli vieršy J. Byliny i M. Mašary. Pierad adčytańniem tvoraŭ kožnaha paeta staršynia T-va hram. Stankievič scharakteryzavaŭ kožnaha paeta paasobku. Z nazvanych vyšej paetaŭ prysutnyja na viečary byli tolki J. Bylina i Chv. Illaševič, tvoraŭ svaich adnak asabista nia čytali. Ahulna kažučy viečar prajšoŭ dobra. Adno tolki niešta niejkaje niajasnaje z jaho nazovam: vyhladaje, što ciapier u Zach. Biełarusi jość usiaho 6 vyšej nazvanych paetaŭ. Tymčasam ich jość kudy bolš. Bo dzie-ž dzieli arhanizatary viečaru ŭžo dobra viedamych paetaŭ, jak Makar Kraŭcoŭ, Vincuk Advažny, Haljaš Leŭčyk, Uładysłaŭ Kazłoŭščyk, Uład-Inicki, dy cely rad inšych, jak Bartul, Tulejka, Małady Dziadok, nie havoračy ŭžo ab samych maładych, jakich treba vyciahvać na śviatło dziennaje i jakim taksama treba pamahać vyrablacca. Praŭda, ŭsich hetych paetaŭ trudna abniać adnym viečaram, ale ŭ takim razie treba było zrabić adpaviednuju ahavorku.

Voś-ža dziela hetaha pažadana, kab Tavarystva Pryjacielaŭ Biełarusaviedy pastarałasia ŭ chutkim časie naładzić iznoŭ viečar paetaŭ i zaprasiła da pryniaćcia ŭ im učaścia ŭsich inšych sučasnych paetaŭ, starejšych i małodšych, Zach. Biełarusi. Aprača taho pažadana, kab ahułam biełaruskija literaturnyja viečary adbyvalisia krychu čaściej, tymbolš, što jany karystajucca vialikaj udačaj. — Nivodnaja lekcyja nie sabrała hetulki publiki, jak apošni literaturny viečar.

---

A ciapier novy numar. — Apošnim časam «Родны Край» — orhan biełaruskich polonofiłaŭ, ci jak ich nazyvajuć — „sanataraŭ“, u № 9 adčyniŭ „Literaturny Kutok“. U pradmovie da hetaha „kutka“ arhanizatary jahonyja tak mienš-bolš pišuć: da hetaj pary nijakija literaturnyja addziely ci kutki ŭ biełaruskich časopisiach, ani navat literaturnaja časopiś «Нёман», nie zdavolvali patrebaŭ biełaruskich paetaŭ, ale voś my ciapier adkryvajem „Literaturny Kutok“ ŭ «Родным Краю», dyk jon zdavolić ich. Aprača taho, budzie jon „kuźniaj, u jakoj našyja maładyja paety buduć uzhadoŭvacca“.

Nu tut dyk chiba i „koń zaśmiajaŭsia-b“...

Bo jaki-ž „kutok“ dy ŭ jakoj hazecie?...

Treba cikavicca novaj biełaruskaj literaturaj, treba pamahać biełaruskim paetam, ale nia tak i nia tam!...

Voś-ža što da hetaha „kutka“. — Heta sapraŭdy praŭdzivy pahanieńki „kutok“ — mieścicca jon na apošniaj vośmaj nievialičkaj, dy i to časam nia całaj, bačynie hazecinki „Род-

ны Край", na jakoj možna dva try ludzkich vieršaŭ źmiaścić i to dva razy ŭ miesiac, bo hetulki razoŭ usiaho vychodzić hazeta. — I jon maje „zadavolić patreby biełaruskich paetaŭ Zachodniaj Biełarusi".

Ciapier što da ,,kuźni". — Tut dyk užo zusim dreń. Bo tut imienna moža vyjści, jak u taho nievuka-kavala, — tolki pšyk... — Kaval heny, jak viedama, uziaŭšy kavałak dobraha žaleza, chacieŭ zrabić z jaho siakieru, ale nie ŭdałosia; paśla z hetaha samaha žaleza chacieŭ zrabić małatok, paśla,—nož, a paśla ŭžo tolki šyła, adnak i toje nieŭdałosia — ŭsio pierapaliŭ i treba było vykinuć na śmietnik. Tak sama i tut. «Родны Край», jak viedajem, jość časopisiaj palityčnaj z kirunkam polonofilskim. Dyk na kaho-ž jana ŭzhaduje našych maładych paetaŭ?... Dalej, jak samych polonofiłaŭ, tak i ich orhanu ŭ sučasny mament biełaruski narod prosta nienavidzić. — Dyk i literaturny kutok u ichnaj hazecie budzie dla kožnaha biełarusa niamiły, choć-by tam ciapier pajavilisia z svaimi tvorami najlepšyja biełaruskija paety. I dziela hetaha kožny biełaruski paet, jaki ŭ toj kutok papadzie, moža apynucca tam, dzie apyniajecca orhan biełaruskich polonofiłaŭ i što horš — moža być stračany raz na zaŭsiody dla biełaruskaha narodu. Razumieje, vidać, dobra heta i arhanizatar literaturnaha kutka ŭ ,,Родным Краю", jaki — choć viedamy, adnak da hetaj pary svajho proźvišča aficyjalna nie vyjaŭlaje.

Dziela hetaha kožny šanujučy siabie i svaju Baćkaŭščynu Biełaruś paet pavinien hetaha ,,kutka" jak najbolš vyściarahacca.

*J—k.*

# Literaturny addzieł.

* * *

Ach pieśni, pieśni...
Iz vami prosta hora,
Jašče učora
Było ŭ vas šmat zadoru
I bunt pradvieśni
Biaz brudu pleśni
Starych hadoŭ.
A siońnia znova,
Jak nad bałotam
Uvosień słota
Imhlić markota
Biassilla movy,
Nia hibkim słovam
Piajom — iznoŭ!...
. . . . . . . . . . . .
A ŭsio-ž ja vieru; —
Vaš šlach łancužny,
U tvorčaj kuźni
My ŭzburym družna
I novym śpievam.
Naš budzień šery
Ŭskryničyć kroŭ.

**M. Mašara.**

* * *

Нашто я вам сумныя песьні сьпяваю?
Нашто павялічваю сьлёзы тугою?
Бо сумныя песьні у сэрцы я маю,
Бо з імі зрадзіўся я ўсею душою.

Ня час мне сьпяваці вам песьні вясёлыя,
Калі я на Матку ўглядаюся хворую,
Калі Яе грудзі запалыя, кволыя
Гукаюць, каб помач прыслалі Ёй скорую.

Нашто я вам сумныя песьні сьпяваю?
Нашто павялічваю сьлёзы тугою?
Бо Матку-Айчыну я сэрцам кахаю,
І Ейнаю доляй стрывожаны злою.

І буду вам песьні сьпяваці я сумныя,
Плаксівыя песьні, як вербы над рэчкаю,
Пакуль не палучацца сілы разумныя
У згодную сувязь, што брыдзіцца спрэчкаю;

Тагды засьпяваю вам іншыя песьні,
Што радасьць і сьмех выклікаюць на вуснах,
Як тыя пралескі у раньнім прадвесьні
Сярод крыгаў лёду на стаялых пустках.

Тагды засьпяваю вам песьні вясёлыя,
Багатыя жартам з адценем іроніі,
Што з духам вясельля скуюць сьцежкі новыя
Пад рыхт раўнабежны духоўнай гармоніі.

**Я. Вількоўшчык.**

## ЗРОК У БУДУЧЫНЮ.

Калі зрок ськірую ў дарогу стагодзьдзяў
І дзеяў вяковых адкрыюцца далі —
У часу залівах я бачу разводзьдзе
І чую стагодзьдзяў таёмныя хвалі,
Што шумамі пены нясуць ўсьцяж навіны
Для нашай Краіны.

І бачу тады, як наш Край весяліцца,
Як кветкамі волі красуюць палеткі,
Як ў попеле зьдзекаў няволі крыж тліцца,
На могілках гнёту сьпяваюць як дзеткі.
Душой адчуваю я гэныя песьні
На волі прадвесьні.

**Казлоўшчык.**

*
* *

Кладуцца на бруку і сьценах
Вячэрнія фарбы гусьцей...
З двароў*) —
дзе заснулі ўжо цені —
Даносяцца крыкі дзяцей.
З вакон хутка клікнуць іх маткі
І ўсе яны пойдуць дамоў...

Напіўшыся цёплай гарбаткі,
Атуляцца казкамі сноў.
Праз горкія сьлёзы я бачу,
Як быццам у казачным сьне:
На ноч туліць ласкай гарачай
Каханая мама мяне.
1933. **Хведар Ільляшэвіч.**

УСТАНЬ!

Ўстань, Баяне стары, прабудзіся ад сну,
Ажыві сярод нас залатую вясну
І у звонкія струны свае зазвані,
Продкаў славу у песьні сваей ўспямяні.
Тым, хто душу сваю загубіў і прадаў,
Хто адрокся сваіх, хто чурацца нас стаў,—
Не пяі; не для іх твая песьня жыла,
Не для іх па абшарах славянскіх плыла.
Запяі ты для тых, што жывуць для другіх,
Ў чыіх сэрцах жыве хваля думкаў сьвятых,
Ажыві ты іх кроў, хай устануць ізноў,
Хай ўспомняць пра славу бацькоў і дзядоў!

**А. Бярозка.**

# Viečar majovy.

Ach, jak cudoŭny viečar majovy! Ach, jak-ža pachnuć ćviaty. Hałava kružycca ad adurajučaha pachu pavietra, hrudzi ŭzdymajucca lohka, jak-by chacieli zaharnuć u siabie hety lohkakryły nastroj majovaha viečara. Usio tak dalikatna, tak miła tak niaŭłoŭna i tak niaprykmietna pranikaje ŭ dušu čałavieka hetym viečaram majovym. Drevy, kvietki, łuhi — sienažaci prycichli, zaniamieli zdajecca ŭ zachapleńni dziŭnym i hymn svoj biassłoŭny śpiavajuć Tvarcu.

Ach, jak lublu ja viečar majovy! Jon navievaje mnie kazki pra ščaście, jon śpiavaje mnie pieśni ab słavie minuŭščyny i viadzie jon hutarku ab budučym lepšym.

Prysłuchajsia hetaj cišyni majovaha viečara, unikni i zrazumiej jaho krasu dušoj mnohastrunnaj, a šmat tady zrodzicca ŭ tvaim sercy śvietazarnych dumak, a šmat ty adčuješ dla ciabie niezrazumiełaha, ale blizkaha i kachanaha. Majovy viečar prypomnić i nastroić u tvajej dušy pačućciovyja struny, jon prypomnić tabie dziciačyja sny i navieje na ciabie latucieńni ab ščaści. Majovy viečar patrapić dušu tvaju adarvać ad štodziennych kłapot, uźniaści jaje nad rovień ciabie akružajučy, až tam, da prazrystaha jasnaha nieba i ty zrazumieješ tady vielič Tvarca pryrody i krasy. *U. B.*

---

*) русыцызм, пабеларуску — панадворак — рэд.

## Dla našych małodšych.

### „MUZYKAJ WIAŚNIANAJU"...

*Muzykaj viąśnianaju*
*Razbudzieŭsia bor,*
*Pieśniaju žadanaju*
*Hrymnuŭ ptušak cbor*

*Sonka ŭśmiachbajecca*
*Z vyšyni niabies, —*
*Koski rassypajucca*
*Na łubi, na les.*

*Ŭnizie rečka pleščycca,*
*Cbvalaju šumić,—*
*Rybka ŭ joj trapieščycca,*
*Srebram zibacić.*

*Krasački, jak zoracki,*
*Kružać karabod, —*
*Załatyja pčołački*
*Nosiać ŭ vulej miod.*

*Ŭsie stvareńni Božyja*
*Pa zimovym śnie*
*Piajuć pieśni božyja*
*Kniazioŭnie-Viaśnie.*

*A vy, dzietki rodnyja,*
*U cudny miesiac Maj*
*Pieśniaju čaroŭnaju*
*Słaŭcie rodny Kraj!*

*Małady Dziadok*

### PRALESKAM.

Krasački miłyja, krasački skromnyja,
Pieršyja hości viasny,
Skul vy, siniavyja, skul vy čaroŭnyja,
Skul vy, praleski, pryšli?
Tolki ziamielka ad ściužy pračnułasia
Ŝkinuŭšy maru zimy
Śmieła, vy pieršyja joj adkliknulisia
Pieršy ubor pryniaśli.
Mo źjajučy zory, nočkaj viasnovaju,
Iskrami siejali vas,
Mo' śnieham puchovym, zaviejaj zimovaju,
Z nieba zlacieli da nas.

M. Mašara.

### KOT I SABAKA.
(*Kazka*).

U Jurki Saka
Ŭ našaj radni
Kot i sabaka
Ŭ słuhach byli:

Kot byŭ niahodny—
Sała jon kraŭ,
Dy ŭ čas chałodny
Na piečy spaŭ.

Myšaŭ łavici
Jon nie chacieŭ,
Syr na palicy
Niaraz jon źjeŭ.

Zvodziŭ kot Saka—
Zaŭsiody łhaŭ:
Što „jon — sabaka
Sała, syr kraŭ".

Sabaka vierna
Słužbu spaŭniaŭ
Ščyra štodzienna
Dvor pilnavaŭ.

Šmat mieŭ kłapotu
J druhoha jon
Za źvierchrabotu
Dastavaŭ „von".

Dziažku na šyi
Nasiŭ „za złość",
Chlabaŭ pamyi,
Časam hryz kość.

Šmat dzie byvaje,
Što słužka mot
Službu spaŭniaje
Jak Sakaŭ kot.

*A. Žuk.*

# Конь.

Хто ня знае гэтай жывой, вечна працуючай машыны нашых вёсак?

Хто ня знае, гэтай прыгожай, карыснай і лагоднай жывёлы?

Але мо' ня кожны цікавіўся прыгледзіцца бліжэй да яго жыцьця, а калі прыглядаўся, дык пэўна заўважыў, што ён, як і чалавек, як і ўсё іншае жывое, адчувае боль, страх, сьцюжу і голад.

Конь па натуры сваей вельмі лагодны і калі бывае злым, ці наравістым, дык гэта значыць, што чалавек злым абходжаньнем з ім, — крыкам і біцьцём—зрабіў яго такім. Пабудзіў у ім тыя інстынкты самаабароны, якія ўклала ў яго матка Прырода, ствараючы яго, як вольную істоту лясоў і сьцяпоў, дзе амаль на кожным шагу прыходзілася вясьці жорсткае змаганьне за жыцьцё.

Усе нашы коні паходзяць ад дзікіх, якіх і цяпер яшчэ шмат водзіцца ў Татарскіх, Сыбірскіх і Амэрыканскіх сьцяпох, дзе жывуць вольнымі табунамі, лётаючы, як віхры, з аднаго мейсца на другое, ці то здабываючы сабе корм, ці ўцякаючы ад якогась ворага. Бо нат' і дзікія коні звычайна бываюць лагоднага характару і заўсёды уступаюць нат' слабейшаму ворагу. Толькі апошняя неабходнасьць змушае іх ісьці ў бой. І тады яны ўсім табуном, ахвярна асланяючы сабой малых і слабых, б'юцца да апошніх сіл.

З вельмі даўнага часу чалавек прыручыў каня. Перш, калі вёў вандроўна-качавы спосаб жыцьця, разводзіў вялізныя табуны асвоеных коняў. Пасьвіў іх летам і даглядаў зімой. Ужываў як ежу іх мяса і малако. А потым, калі павёў аселае жыцьцё, пачаў змушаць іх да цяжкае працы.

І так мала-па-малу з вольных і дзікіх істот сталіся коні нашы асвоеныя, лагодныя і паслухмяныя коні.

Конь вельмі любіць лагоднае абходжаньне. Заўсёды лепш слухае ціхай ласкавай мовы, чым крыку, а нат' і біцьця.

Між імі ёсьць некатарыя пужлівыя. Часта баяцца ўсходзіць на мост, ці пабачыўшы знячэўку якісь пень, куст, ці камень кідаецца раптоўна набок, а будучы ў запражы, пры гэтым выварачываець воз, ломіць аглоблі, ці рве запрэжку. Людзі, замест таго, каб лагодна супакоіць спалоханага каня і падвёўшы даць агледзіць яму спужаўшую яго рэч—звычайна крычаць і б'юць яго, чым яшчэ горш абуджаюць страх у жывёлы пры зблізкэньню да гэтага мейсца другім разам.

Цяжкі лёс каня... Ох! які цяжкі...

Чалавек мае голас і мову і калі ў яго ёсьць якое гора, ён жаліцца другому. Сваю боль, свае мукі і цярпеньні вылівае ў песьнях. Конь-жа ня мае і гэтай пацехі. Трацючы

апошнія сілы, зносіць усё цярпеньне моўчкі, толькі вялікія яго вочы з бязмерным смуткам глядзяць на свайго ўладара, як-бы пытаючыся: —

— Нашто так мучаеш мяне?

А колькі ёсьць такіх злых і неразумных людзей, якія часта абы якое глупства вывела іх з роўнавагі ў дарозе, ці ў часе працы, пачынаюць сваю злосьць вымяшчаць на нічым нявінаватай жывёле.

Матка Прырода, ствараючы каня, улажыла у яго формы шмат красы.

Пэўна кожнаму прыходзілася бачыць хоць на рысунках табун дзікіх коняў.

І пэўна кожны мімаволі захапляўся іх красой. Зграбныя, энэргічныя галоўкі, на крутых прыгожых шыях, на якіх хвалююцца густыя пышныя грывы, спадаючы ваўністымі косамі на круглыя, гладкія хрыбты, якія канчаюцца такімі-ж прыгожымі даўгімі хвастамі.

А ногі! Быццам вытачаныя вялікім мастаком.

Хто бачыў, як мкнуцца яны, бы‘ вецер па роўным прасторы шырокіх сьцяпоў, з закінутымі назад распушчанымі полымем па ветру грывамі ды паднятымі ў гару цудоўнымі хвастамі?!

Хто бачучы іх у такі міг не захопліваўся іх красой, разгонам і энэргіяй?...

Калісь прапрадзеды нашых „каштанкаў, „сівак“ і „буланак“ былі такімі-ж красунамі.

Як жа далёка ў красе ад іх нашы вясковыя коні цяпер!

Не памерна цяжкая праца забіла прыродную прыгожасьць, а недаеданьні, бруд і тое конскае абходжаньне, якое спатыкаюць з боку гаспадара, робюць іх тымі „драбінамі,“ якія мы часта бачым вясной на голых сялянскіх пасьбішчах

Цяжкі лёс каня!...

А яшчэ горшым робіць яго чалавек сваім дзікім абходжаньнем, з гэтым найлепшым сваім прыяцелям, які так ахвярна аддае у сваей цяжкой службе на карысьць чалавека сваю волю, сілу, красу і жыцьцё.

Дык ці не заслужывае конь на лепшае абходжаньне з ім?

Трэ’ дадаць, што найлепшыя коні паводле прыгожасьці, вынасьлівасьці, быстрыні і розуму лічуцца арабскія. Але і абставіны жыцьця іх зусім іншыя.

Арабскі конь амаль увесь час жыве на волі.

Араб да свайго каня адносіцца, як да найлепшага прыяцеля, — вельмі шануе і цэніць яго.

Затое і конь з свайго боку так прывязываецца да гаспадара, што нат’ ня верыцца слухаючы апавяданьні аб такой гарачай дружбе, а так-жа ўзаемным разуменьні.

**М. Машара.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Матуральныя экзаміны ў беларускіх гімназіях.** 22-га траўня с. г. распачаліся матуральныя экзаміны абсольвэнтаў беларускіх гімназіяў у Вільні і Наваградку. У Вільні да экзаміну дапушчэна 14 абсольвэнтаў гімназіі і 3 чалавек экстэрністаў. — Трэба адзначыць што перад экзамінамі, дырэкцыі вышэй названых беларускіх гімназіяў, якія зьяўляюцца фільямі гімназіяў польскіх, атрымалі паведамленьне ад Віленскага Школьнага Куратара, што сёлетнія матуральныя экзамены абедзьвюх гімназіяў маюць адбывацца разам з „мацежыстэмі“ гімназіямі польскімі. Калі ж даведаліся аб гэтым вучні віленскае беларускае гімназіі, дык паднялі зразумелую буру пратэстаў і ў самаабароне загразілі забастоўкай і галадоўкай. Тады-ж улады гімнагіі зьвярнуліся з гэтым да Куратарыюму, якое ў адказ паведаміла, што тут зайшла „памылка“ пад час пісаньньня паперы і...вінавата машыністка,— а матуральныя экзаміны маюць адбывацца ў абедзьвюх бел. гімназіях аддзельна і на сваіх мясцох, як было дагэтуль.

**Узноў ліквідацыйныя рэформы.** Яшчэ не заціхлі леташнія ліквідацыйныя рэформы апошніх дзьвюх беларускіх гімназіяў (у Вільні і Наваградку), як узноў пачынаюцца новыя. Вось нядаўна цэлы рад вучыцялёў гэтых гімназіяў атрымаў паведамленьне Куратарыюму аб звальненьні іх з канцом гэтага школьнага году з займаных становішчаў. Сярод вучыцялёў віленскае гімназіі атрымаў такое паведамленьне аб звальненьні і Кс. Ад. Станкевіч, які працаваў у гімназіі ад ейнага заснаваньня і зьяўляўся да апошняга часу адзіным бадай незалежным чалавекам, які ўнутры гімназіі адкрыта бараніў яе беларускасьці. — Сёлетняя „рэформа“ гэта ўжо прадапошні акт аканчальнае ліквідацыі апошніх беларускіх гімназіяў. Давяла-ж да гэтага кучка бел. угадоўцаў з-пад знаку „санацыі“ за... міску сачыўкі.

**Судовая справа ТБШ.** 18 траўня с. г. у Віл. Апэляцыйным Судзе разглядалася справа прусуду Акруж. Суду над сябрамі Галоўнай Управы Таварыства Беларускае Школы і трох яе дзеячоў. Ап. Суд, разгледзяўшы справу, зацьвердзіў прысуд І-шай інстанцыі, паводле якога сябры Гал. Управы: Ф. Стэцкевіч, М. Пяткевіч і Р. Шырма былі апраўданы, а Саковіч, Цэрах і Скурка засуджаны ў вастрох ад 2 да 3 г.

**Лекцыя ў Т-ве Пвыяцеляў Беларусаведы.** 14 траўня с. г. у VII залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсытэту, стараньнямі Т-ва Пр. Беларусаведы была наладжана лекцыя на тэму: „Жанчына ў беларускай літэратуры“, якую прачытала студэнтка Мілючанка.

**Беларускі канцэрт-вечарына ў віл. бел. гімназіі.** Вучні 6 і 7 кл. віл. бел. гімназіі 20 траўня с. г. ладзілі канцэрт-вечарыну, падчас якой выступаў Хор Бел. Студ. Саюзу пад кіраўніцтвам Р. Шырмы.

**З БССР. Беларуская Опэра.** У Менску ў хуткім часе мае быць закончана будова вялізарнага будынку пад Беларускую Опэру, пры якой будзе мясьціцца Беларуская Консэрваторыя катороя будзе мець вялізарную канцэртовую залю.

**БЕЛАРУСЫ Ў ЛІТВЕ. Літоўска-беларускае Т-ва ў Коўне.** У Коўне арганізуецца Літоўска-Беларускае Таварыства. У арганізацыйным сабраньні гэтага Т-ва бралі ўчасьце ковенскія дзеячы на чале з інж. Дуж-Душэўскім з боку беларускага, а праф. М. Біржышка, др. Пурыцкіс (выдатны літоўскі публіцыст), праф. Вольтэріс, праф. Аўгустаітіс, праф. Вайлёніс і інш. з боку літоўскага.

## З жыцьця украінскае моладзі

**Сьвята ўкраінскае моладзі.** 7 траўня с. г. ў Львове адбылося вялікае сьвята ўкраінскае каталіцкае моладзі пад назовам: „Украінская Моладзь Хрысту“. На ўрачыстасьць гэтую прыбыла ўкраінская моладзь з усіх куткоў Заходняй Украіны. Часьць яе прыехала звычайнымі і дадатковымі цягнікамі, якіх было 14, часьць-жа прыехала вазамі, а рэшта прышла пехатою. Усяе ўкраінскае моладзі на гэта сьвята сабралася 70 тысяч чалавек, — усіх учасьнікаў сьвята было каля 100.000 асоб.

Сьвята распачалося 6 траўня па паўдні біцьцём званоў ўва ўсіх 15 украінскіх цэрквах у Львове, званілі таксама ў гэтым часе і званы царкоўныя на правінцыі. Пасьля адбылося набажэнства ў Саборы сьв. Юра, дзе фармальна было распачата сьвята.

7 траўня з рана адбылося набажэнства пад адкрытым небам на пляцу гімнастычнага т-ва „Бятько-Сокіл“, падчас якога было адчытана багаславенства надасланае Рымскім Папай Піем XI. Падчас гэтага-ж набажэнства ўчасьнікі сьвята злажылі прысягу на дасьмертную вернасьць Хрысту. Набажэнства адпраўляў і гаварыў казаньне Прэасьвяшчэнны Др. Бучко. Па набажэнстве 100.000 чалавек стала ў паход прад Эксцэльленцыяй Мітрапалітам Шэптыцкім. Побач Эксцэльленцыі Мітрапаліта сядзеў старшыня Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыі і старшыня Украінскага Народна-Дэмократычнага Аб'яднаньня пасол др. Д. Левіцкі. Паход трываў 3 гадзіны і 10 мін. Вечарам гэтага-ж дня адбылася сьвяточная Акадэмія, на якой сьвята было закончана.

Гэтае Сьвята ўкраінскае моладзі мае вялікае значэньне ня толькі рэлігійнае, але і народнае. Яно сьцьвердзіла, што

моладзь украінская і яе павадыры у сваей адраджэнскай працы ня толькі не баяцца Хрыстовай навукі, але адкрыта за ей ідуць.

Гэткай моладзі і гэткіх павадыроў трэба і нам, беларусам, калі мы маем прадстаўляць сабой сапраўдную сілу.

---

# Usiačyna.

**Miesta z soli.** U hłybi pustyni Sachary ŭ Afrycy adkryta staradaŭnaje miesta Fach, zbudavanaje z soli, jakaja ščarnieła, zakapcieła i stałasia ćviordaja jak skała.

**Lotaŭ na plačach.** Italjanski lotčyk Boscola, lataŭ na aeraplanie praz 1 hadzinu 5 min. i 51 sek. na plačach. Hetym pabiŭ jon usie dasiulešnija rekordy ŭ latnictvie. Paśla lotu dachtary, ahledziŭšy lotčyka zajavili, što na zdaroŭje jamu heta nia škodzie.

**Pamior čałaviek jaki mieŭ 256 hod.** U Kitai niadaŭna pamior najstarejšy kitajec Lin-Čin-Jun, jaki mieŭ užo 256 hod. Lin Čin-Jun radziŭsia ŭ 1677 h. Mieŭ jon mnoha žonak i astaviŭ 75 unukaŭ i praŭnukaŭ, najmałodšy z jakich maje ciapier 70 h. Lin-Čin-Jun zajmaŭsia dośledam roznych lačničych ziołak, a svaju daŭhaviečnaść prypisvaŭ jon spažyvańniu niejkaj raśliny, jakoj adnak nichto dahetul nia znaje. Vyhladaŭ jon na čałavieka hadoŭ 70, nia bolš.

**Zamiest ludziej — mašyny**. U Amerycy zbudavana fabryka dla vyrablańnia aŭtamabilnych padvoźziaŭ. Maje jana vyrablać 5 tysiač padvoźziaŭ u adnu paru (24 hadziny). Najcikaviej adnak toje, što całaja heta fabrykacyja budzie adbyvacca biaz nijakaj pomačy ludzkich ruk. Usio buduć rabić mašyny. Da fabryki budzie z adnej starany padavacca syroje žaleza, a z druhoj buduć vyjaždžać hatovyje padvoźzi, biaz najmienšaha ŭdziełu čałavieka.

— U hetaj-ža Amerycy, u štacie New Jersey, raspačata budova fabryki sukna. I tut taksama całuju fabrykacyju buduć vykonvać mašyny, da absłuhi katorych patrebny tolki adzin čałaviek. Fabryka heta ŭ praciahu tydnia vydaść hetulki sukna, kolki da hetaj pary zrabić mahli 500 rabotnikaŭ.

**Chto vyšej?** U 1889 h. u Paryžy (Francyja) adbyvałasia vystaŭka. Adnym z dzivaŭ hetaj vystaŭki była vieža zbudavanaja inžynieram Eifflem z žaleza, vyšynioj 300 metraŭ. Vieža

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНА ЯКАЛЕГІІ:*

*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк.** **Выдавец Янка Багдановіч.**

heta isnuje pa siańniašni dzień i ličyłasia za najvyšejšuju budoŭlu. Ale voś chutka jana budzie zakasavana inšaj. — Sioleta ŭ Złučanych Štatach Paŭnočnaj Ameryki ŭ m. Čykaho adkryvajecca ŭsiaśvietnaja vystaŭka. Adnym z dzivaŭ hetaj vystaŭki budzie vieža, jakaja maje mieć 610 metraŭ vyšyni. Całaja budova jaje jość z stali. Viežu hetu ŭ paśpiešnym tempie kančajuć užo budavać. Košt jaje budovy vynosić 300 miljonaŭ dalaraŭ, h. zn. 2 z pałovaj miljardaŭ złotych polskich. Čaść hetych koštaŭ pakryvaje amerykanski ŭrad, a čaść amerykanskija handlovyja firmy, jakija na pakryćcio viežy dajuć svaje reklamy i ŭ samoj viežy ŭstrojvajuć kino, teatry, restarany i im p. Na vierch viežy budzie viaści 2562 schodaŭ, a tak-ža niekalki vindaŭ. Na samaj hary budzie vializarny pražektar, śviatło jakoha budzie vidać na dziesiatki kilometraŭ.

Francuzy adnak nia chočuć paddacca i ŭžo na ŭsiaśvietnuju vystaŭku ŭ Paryžy, jakaja maje adbycca ŭ 1937 hodzie, budujuć novuju viežu, vyšynioj 700 metraŭ. Na hetuju viežu da vyšyni 500 metraŭ možna budzie ŭjaždžać autamabilami, dzie budzie vialiki restaran dla 2.000 asob. Dalejšych 200 metraŭ treba budzie jści piechatoj, abo padymacca vindami. Košt budovy hetaj viežy vyniasie kala 50.000.000 frankaŭ (1 frank raŭniajecca 40 polskim hrošam).

**Jašče ab usiaśvietnaj vajnie.** Niadaŭna hazeta „Neues Volk" apublikavała novyja danyja z usiaśvietnaj vajny. Pavodle ich: usiaśvietnaja vajna tryvała 4 hady 3 miesiacy, 10 dzion. Usich mabilizavanych ludziej dla vajny za ŭvieś hety čas było 60 miljonaŭ čałaviek. Pad kaniec vajny było ŭvaružana 30 miljonaŭ žaŭnieraŭ. U rezultacie za čas vajny było zabitych i prapaŭšych biaz vieści bolš jak 11 miljonaŭ ludziej. Z hetaha-ž vynikaje, što na praciahu 4 z liškam hadoŭ što minutu hinuła ad 4 da 5 čałaviek. U dzień heta raŭniałasia 6—7 tysiačam. Hałodnych z pryčyny vajny było 7 miljonaŭ ludziej, ranienych — 20 miljonaŭ, z ich mnoha pa niekalki razoŭ, Vajennyja raschody vynosili 186 miljardaŭ dalaraŭ. Straty, z pryčyny astanoŭki pradukcyi, siahali da 151 miljarda dalaraŭ. Ahułam kažučy, straty, pryniesianyja suśvietnaj vajnoj, dasiahali 337 miljardaŭ dalaraŭ. U takim vypadku zabojstva adnaho čałavieka „kaštavała" 15.565 dalaraŭ. — Trupy z suśvietnaj vajny da hetaj pary jašče ŭ niekatorych miascoch nie pachavany. Tak napr. mahistrat (samaŭrad) francuskaha miesta Reims, da hetaj pary nia moža ŭparadkavać pola kala horki Loretto, dzie byŭ vialiki francuska-niamiecki boj, pad čas jakoha zhinuła 400.000 čałaviek, cieła katorych, a faktyčna

Przesyłka opłacona ryczałtem.

kości tolki lažać badaj-što usich nie pachavanyja da siańnia-šniaha dnia. Bo za čatyrnaccać hadoŭ ad vajny pachavali ŭ supolnaj mahile tolki kala 21.000 čałaviek. Dla pachavańnia rešty zabitych i ŭparadkavańnia pola mahistrat m. Reims prosta nia moža znajšci rabotnikaŭ pamima vialikaha biezrabоćcia, bo vyhlad hetaha pola na hetulki strašny, što pracavać tam prosta niemahčyma.

# Наша пошта.

А. Бярозцы. „Шлях Моладзі“ з „Заранкай“ нічога супольнага ня меў і зьяўляецца часопісяй незалежнай, выдаванай саматугам самой моладзьдзю ужо праз 4 гады (ад м-ца сакавіка 1929 г.). Камплекты, за выняткам разышоўшагася ўжо за 1929 г., можна выпісаць з Рэдакцыі, цана іх з аправай 3 зл. за гадавік, для Вас, як супрацоўніка можам зрабіць уступку па 1 зл. з кожнага. Высылаем Вам „Ш. М.“ ад м-ца красавіка с. г., першыя тры нумары за сёл. год вышлем дадаткова. Падпіска на „Ш. М.“ сёлета 2 зл. у год, з прэміяй кніжак—3 зл. „Заранка“ ня выходзіць ад 1931 году, у 1930 г. яна ня выходзіла зусім, а ў 1929 г. вышла яе дзьве кніжачкі. Нехапаючыя нумары „Заранкі“ магчыма, што маглі-б Вам дастаць, але ня ведаем якія. Ваш верш, які надрукаваны ў № 4 „Ш. М.“, атрымалі мы ад Паважанай Рэдактаркі „Заранкі“ грамадзянкі Л. Войцікавай, якая, як самі хіба заўважылі, зьяўляецца нашай ідэйнай супрацоўніцай. За прысланыя вершы дзякуем, як бачыце адзін з іх друкуем ужо ў гэтым нумары. Просім не забываць нас на далей.

А. М—цю. Вашы вершы слабыя, радзім пісаць лепш прозай.

Беларускім вучням у Ашмяне. Беларускага Унівэрсытэту ў Польшчы няма і пры сучасных варунках ня скора будзе, бо ўлады сучаснай Польшчы так адносяцца да Беларусоў, што ня можна мець свайго ня толькі ўнівэрсытэту, але нават пачаткавае школы ды гімназіяў, хоць канстытуцыя польская на гэта пазваляе. Паштоўку выслалі — перапрашаем за спазьньне. — Чытайце і пашырайце „Шлях Моладзі“, а калі хто мае здольнасьці, дык просім у супрацоўнікі з пяром.

М. Машары. За пісьмо і матэр‘ялы вялікая падзяка. Просьба яшчэ ня споўнена, але робяцца ў гэтым кірунку захады.

Я. Вількоўшчыку. Ад Рэд. „Бел. Крыніцы“ вершы атрымалі, па магчымасьці будзем друкаваць.

Міхасю Явару. Ве шы атрымалі, слабаватыя, але можа штонебудзь выбярэм.

П. Г—ку. Пісьмо і значкі на 1 зл. атрымалі, „Ш. М“ будзем высылаць ад 1.IV с. г.

Надым Б. А ўсёж-дыкі лепш Вам пісаць, здаецца, прозай. „Мурашак“ ня можна друкаваць. Пішэце.

А. Жуку. Вершы атрымалі, па магчымасьці будзем друкаваць.

Ч. А. Ваш верш „Вясна“ надрукуем у наступным нумары.

Шабуні П. Грошы атрымалі, прэмію, хоць Вы і спазьніліся, вышлем.